Спецыяльная адукацыя

# Факт відавочны – рэспубліцы мы патрэбны

***Інваліднасць - гэта не стан душы, а частка жыцця чалавека, які з ёй сутыкнуўся . Таму ўспрымаць яе трэба гэтак жа, як і ўсё астатняе. Бо людзі, якія маюць маленькія вочы, крывыя ногі, брыдкую лысіну, непрыгожыя нос, губы, зубы і іншыя часткі цела, якія не адпавядаюць эталонам Венеры і Апалона, - па сутнасці, знявечаныя, хоць гэтая інваліднасць медыцынскай групе не падлягае. Адсюль вынікае, што інвалід - не той, хто мае нейкі недахоп, а той, хто падкрэслена гэта заўважае. Гэтая лжэміласэрнасць звязана з прыроджаным калецтвам розуму, якое не прыносіць ні дапамогі, ні палёгкі, затое здольнае нішчыць духоўнасць, гуманнасць, культуру, а галоўнае - веру чалавека ў сябе, робячы яго залежным, нібы зомбі, ад нечай волі.***

Думаю, менавіта такім вызначэннем кіраваўся прафесар Эдуард Іосіфавіч Збароўскі, дабіваючыся адкрыцця Эксперыментальнага цэнтра рэабілітацыі інвалідаў (ЭЦРІ). Яго задума ажыццявілася ў 1996 годзе –на базе Беларускага НДІ экспертызы працаздольнасці інвалідаў была адкрыта навучальная ўстанова, якая з'яўляецца сёння філіялам Мінскага дзяржаўнага гандлёвага каледжа. У праспекце ЭЦРІ запісана: "Мэта медыка–прафесійнай рэабілітацыі – аднаўленне прафесійнага статуса і сацыяльнай інтэграцыі хворага або інваліда ў грамадства, атрыманне прэстыжнай спецыяльнасці і здольнасць хворых або інвалідаў быць нароўні са здаровымі людзьмі". Больш падрабязна пра гэтую ўстанову, якая ўмудрылася выжыць і адсвяткаваць ужо сваё пяцігоддзе, – у маёй размове з яе дырэктарам М.В.Раскашанскім.

**- Мікалай Васільевіч, як усё пачыналася?**

– Спачатку планавалася, каб гэта быў эксперыментальны цэнтр перападрыхтоўкі інвалідаў (статус "рэспубліканскі" нам, на жаль, так і не быў прысвоены). Многіх хвалявалі не ўзнятыя намі праблемы, іх цікавіла – як доўга мы працягнем на Беларусі.

**- Колькі "адпускалі на жыццё"?**

– Максімум тры гады. А мы працягваем жыць і невялікі юбілей адсвяткавалі. Збіраемся расшырацца, і ўжо з'явілася ўпэўненасць, што хутка мы станем паўнацэннай навучальнай установай. За гэтыя гады мы даказалі (ды і самі пераканаліся), што патрэбны, і з кожным годам гэтая значнасць усё больш відавочная.

**- Столькі многа інвалідаў?**

– Так. Інваліднасць не змяншаецца і ўсё больш маладзее. Кожны год да нас паступае вялікая колькасць жадаючых, і конкурс складае 3–4 чалавекі на месца. Я не ўлічваю тых, хто рухаецца пры дапамозе інвалідных калясак, мыліц – ім пакуль цяжка трапіць да нас з–за таго, што складана дабірацца да вучэбнага корпуса. Але мы робім усё, каб і гэтая катэгорыя хворых людзей змагла стаць студэнтамі.

**- Ці ёсць яшчэ такія цэнтры?**

– У Рызе, Санкт–Пецярбурзе і Новакузнецку.

**- Як складваецца лёс вашых выхаванцаў пасля заканчэння навучання?**

– У цэлым добра. Яны атрымліваюць дыплом дзяржаўнага ўзору. 5–10 працэнтаў працягваюць вучыцца далей, 30 працэнтаў уладкоўваюцца на працу, многія вучацца завочна. Ёсць такія (але іх мала), што не працуюць, нехта мяняе спецыяльнасць. Нашы выпускнікі працуюць у юрыдычных службах натарыусамі, у судах. У працаўладкаванні нам вельмі дапамагае Міністэрства сацыяльнай абароны. Яно з намі, увогуле, цесна супрацоўнічае і заўсёды дапамагае ў розных пытаннях. Вялізную дапамогу ў вучэбна–метадычнай рабоце нашаму філіялу аказваюць Мінскі дзяржаўны гандлёвы каледж на чале з яго дырэктарам Аляксандрам Кузьмічом, вучэбная частка каледжа, выхаваўчая служба, калегі па эканамічных дысцыплінах.

**- Паступіць да вас могуць усе, хто мае захворванне або інваліднасць?**

– Не. Мы не прымаем людзей, якія пакутуюць на вірусныя або інфекцыйныя захворванні, а таксама стаяць на ўліку ў псіханеўралагічных дыспансерах.

**- Ці адрозніваецца нечым навучанне ў вас ад устаноў, дзе вучацца здаровыя людзі?**

– Абсалютна нічым. Да сваіх выхаванцаў ставімся вельмі строга і ніякіх асаблівых умоў не ствараем.

**- Гэтую строгасць я магу сабе ўявіць: калі з-за хваробы мне давялося экстэрнам здаваць экзамены на чацвёртым курсе інстытута культуры, то пыталіся ў мяне надзвычай строга. Думаю, што і вашы выхаванцы скажуць вам за гэта "дзякуй", як гавару я сваім выкладчыкам.**

– Ад атрыманых слоў удзячнасці я нібы па кветках іду. Подласцю яшчэ ніхто не адказаў.

**- Якая ў вас форма навучання?**

– Дзённая. Тэрмін навучання – два гады. Рыхтуем прафесіяналаў па эканоміцы прадпрыемстваў. У працэсе вучобы студэнты праходзяць вучэбную і пераддыпломную практыку. Атрымліваюць стыпендыю.

**- Ці была дапамога з-за мяжы?**

– І вельмі вялікая з боку Германіі. Яны пастаўлялі мэблю, тэхніку, на першым этапе рыхтавалі нашых спецыялістаў для такога віду працы.

**- Якія ў вас планы на будучыню?**

– Мець свае памяшканні. У праекце – завочнае навучанне, падрыхтоўчыя і камп'ютэрныя курсы, але ўсё ўпіраецца ў фінансы.

**- Магу вас запэўніць, што часовыя праекты маюць здольнасць набываць пастаянны статус. Веру, што нядоўга вам чакаць ажыццяўлення задуманага.**

**Гутарыла Ларыса ВЛАДЫКА-РЫХЦІКАВА.**



НА ЗДЫМКУ: М.В.Раскашанскі праводзіць заняткі.

**Фота аўтара.**

Грамадскія аб'яднанні

# Пад крылом дабрыні

...Ці чулі вы, як спявае ўвесну салавей, як свішча вецер за акном, ці бачылі, як цвітуць кветкі ў бабуліным гародчыку, як красуецца на небе вясёлка пасля дажджу і як кладзецца на пасцель лугоў мяккі восеньскі туман? Не здзіўляйцеся маім пытанням, не лічыце іх недарэчнымі. Лепш глыбей задумаемся – ці бачым мы ўсё гэта, ці чуем? Ці ўстрапянулася хоць раз наша кожная клетачка ад звычайнай зямной прыгажосці? А, можа, мы раўнадушна ўспрымаем усё гэта, як дадзенасць? Калі так, то мы губляем самае галоўнае, без чаго немагчыма ўявіць сабе радасць і сапраўдны сэнс жыцця. А калі наадварот – то чалавек жыве ў гармоніі з прыродай, здольны глыбока адчуваць і разумець іншых. Суперажываць чужы боль і падаваць людзям руку дапамогі. І... разумець... разумець...

Тады Вы ніколі не здзівіцеся ўжо такой радасці, якая, напрыклад, бывае ў дванаццацігадовага Ігара А., калі ён, сабраўшы ўсе свае добрыя, светлыя пачуцці, дорыць іх верабейку, які чырыкае за акном. Хлопчык выказвае гэтую любоў так трапятліва, так эмацыянальна, сабраўшы ў адно ўсе свае магчымасці – іскрыстыя агеньчыкі ў вочках, няўмелыя рухі цела, унутраныя гукі. Ён умее

**Праблема дзяцей-інвалідаў сур'ёзная і злабадзённая, вырашаць яе трэба на дзяржаўным узроўні. І, магчыма, з навукова-абгрунтаваных новых пазіцый. Бо ўсе пытанні грамадская арганізацыя вырашыць не ў стане, як бы ні стараліся яе кіраўнікі.**

радавацца, адчуваць, але не можа поўнасцю сваю радасць выказаць. А так хоча (і гэта я добра адчула пры сустрэчы), каб яго зразумелі, каб пагладзілі па галоўцы, прытулілі да грудзей. І мы не павінны адварочвацца ад яго шчымлівага позірку, а пасправабаваць спасцігнуць той свет, у якім ён жыве. Хіба ж вінаваты ён у тым, што лёс пазбавіў яго здароўя, што ягоная матуля ніколі не пачуе ад сына слова "мама" і што ўся сям'я (!) будзе вучыцца разумець Ігара і жыць у яго свеце. Хвароба сына прымусіць Ніну Пятроўну духоўна вырасці, змірыцца з бядой, прыйсці да Бога. І ўжо цяжкасці перажываюцца лягчэй, і боль нібы прытупляецца. Аднак дастаткова было ўбачыць, як маці купала Ігара, каб можна было ўявіць, колькі фізічных сіл патрабуе хворае дзіця з абмежаванымі магчымасцямі! Як няпроста і цяжка паўсядзённа несці крыж лёсу, як не пад сілу іншы раз бывае... і душыць за горла адчай. Але ратуе усё тое ж змірэнне і тая сіла, і моц, якія дае усё той жа лёс. І Вера. І спачуваеш, спрабуеш зразумець і дзіву даешся...

Наша машына спыняецца ля № 35 па вуліцы Алтайскай Мінска. Старэнькі домік нібы схаваўся за такім жа старэнькім плотам. Адкрываем засаўку брамкі, ідзём да ганку.

– Тут няма веранды, адразу кухня,– папярэджвае Вольга Яўгенаўна Пратасевіч – старшыня Асацыяцыі дапамогі дзецям–інвалідам і маладым інвалідам Заводскага раёна Мінска – і хуценька накідвае словамі партрэты жыльцоў дома.

Уваходзім. Нас сустракае маладая, прыветная жанчына з лёгкай усмешкай на твары, трохі збянтэжаная ад з'яўлення нечаканых гасцей. Яна адразу прыцягвае сваёй гасціннасцю і шчырасцю. Гаворыць разважліва і напаўголаса. Маленькі пакойчык–катушок служыць і верандай, і кухняй. Тут холадна, цёмна, сыра і няўтульна. Пахне гніллю. Адсутнасць грошай пазбавіла гаспадыню магчымасці плаціць за ацяпленне, і яго адключылі. Як вынік гэтага – размерзліся трубы і кацёл выйшаў са строю. Газ таксама адключаны. І вось ужо два гады Валянціна Міхайлаўна Падвысоцкая з двума дзецьмі жыве ў холадзе. Да таго ж, вельмі бедна.

Праз адчыненыя дзверы адзінага, такога ж сырога і цёмнага, пакоя бачу яе хворага трынаццацігадовага сына Віцю. У думках дзіўлюся вынослівасці людзей і іх цярплівасці, якімі надзяліў іх лёс, каб выжыць і не ачарсцвець душой. Слухаць Валянціну Міхайлаўну – гэту простую мужную жанчыну, назіраць яе жытло абыякава – немагчыма. Сэрца сціскаецца ад болю за яе лёс і лёсы яе дзяцей. Але ж ці могуць гэтыя людзі быць абыдзены ўвагай тых, хто па абавязку службы павінен прыйсці на дапамогу? Хочацца спадзявацца, што неадкладная дапамога сям'і будзе ўсё ж аказана. А пакуль надзейныя сябры Падвысоцкіх – Вольга Яўгенаўна Пратасевіч і Тамара Аркадзьеўна Крук. Тыя, хто лепей зразумее і заўсёды паспачувае, па магчымасці дапаможа. Бо і яны гадуюць дзяцей-інвалідаў, самі п'юць горыч штодзённых будняў, але знайшлі ў сабе сілы жыць, радавацца кожнаму дню, і стаць апорай для многіх іншых бацькоў хворых дзяцей.

Гэта яны, і такія як яны жанчыны, пяць гадоў таму сабралі пад адно крыло дзяцей-інвалідаў Заводскага раёна сталіцы, стварыўшы грамадскую арганізацыю, якую апошнія тры гады ўзначальвае Вольга Яўгенаўна. Сёння члены Асацыяцыі не ўяўляюць сваёй установы без дзвюх энергічных, шчырых і бескарыслівых жанчын – старшыні і яе намесніка, якія ўдала дапаўняюць адна адну. Што гэта менавіта так, я пераканалася ў той дзень, калі мы з імі наведвалі сем'і дзяцей-інвалідаў.

...Тамара Аркадзьеўна была пунктуальнай. Зранку на месца прыехала своечасова і, як аказалася, на ўласным аўтамабілі. Акуратная прычоска, усмешка на твары, лёгкая, упэўненая паходка стваралі вобраз жанчыны, якой усюды шанцуе. Мы пазнаёміліся. Размова адразу пачалася, як толькі Тамара Аркадзьеўна села за руль і ўпэўнена павяла машыну. Па дарозе нас чакала Вольга Яўгенаўна. І вось мы едзем па першым адрасе. Дарогай жанчыны расказваюць пра тое, як стваралі арганізацыю. Яны праніклівa гаварылі аб праблемах, якія хвалююць зараз, распавядалі пра мерапрыемствы, якія праведзены, адкрывалі сакрэты намечаных планаў.

Так, гора аб'яднала больш чым сто дваццаць сем'яў. Усе ў многім аднолькава ўспрымаюць навакольны свет. Яны глядзяць на яго вачыма сваіх дзяцей. І, як сказалі мне мае спадарожніцы, яны дзеляць жыццё на дзве паловы. Тое, ранейшае, са сваімі марамі і спадзяваннямі, засталося ў мінулым. Другое, з душэўнымі і фізічнымі пакутамі, прыйшло разам з нараджэннем хворага дзіцяці.

– Але вярнуцца туды ўжо немагчыма, – распавядае Вольга Яўгенаўна. – Як і немагчыма жыць у пастаянным болі, у самоце, у пакутах. Мы перайначылі свае адносіны да сітуацыі, у якой знаходзімся, і па-іншаму сталі глядзець на гэты свет. І таксама ўсміхаемся, і гэтак жа, як і ўсе, радуемся жыццю. І дзяцей вучым усміхацца. Мы верым, што ўсе выпрабаванні, якія б ні паслаў Бог, нам хопіць сіл вытрымаць.

– Мае родзічы і знаёмыя дагэтуль лічаць, што я чэрствая, бо дазволіла сабе радавацца жыццю, маючы хворага сына, – сказала пра набалелае Тамара Аркадзьеўна. – Як не разумеюць людзі, што калі жыць увесь час гаруючы, то можна звар'яцець, ці кінуцца ў п'янку або проста памерці! Мы выбралі шлях прыстойны. І не лічым сябе абдзеленымі. Раней здаралася, едзеш у гарадскім транспарце з хворым сынам, а на яго неадэкватныя паводзіны людзі глядзяць з насмешкай, іранічна, быццам і не чалавек перад імі.

Сапраўды неардынарныя крокі да самых сябе – праз боль, людское неразуменне, адчай. Але бацькі выстаялі і дапамагаюць іншым пераадолець бяду. Так, як могуць, як умеюць, і таму, што хочуць дапамагаць. Напрыклад, увесь 1999–ы год Тамара Аркадзьеўна на сваёй машыне вазіла майстра па рамонце тэлевізараў у кожную сям'ю, дзе была ў гэтым неабходнасць, папярэдне дамовіўшыся з ім на бясплатны рамонт. Ды ці толькі гэта зроблена пры іх руплівым жаданні дапамагаць! Пастаянна праводзяцца святы для дзяцей арганізацыі – да нараджэння Хрыстова, сустрэчы вясны, Вялікадня, Міжнароднага дня дзіцяці, Дня маці, Дня інваліда. Больш таго, самых цяжкіх дзяцей рэгулярна вывозяць на прыроду, у заапарк, па гістарычных мясцінах Беларусі. У мінулым годзе дзесяць дзяцей з сем'яў, дзе ёсць дзіця–інвалід, дзякуючы дапамозе дабрачыннага фонду "Сакавік" трапілі на аздараўленне ў Ірландыю. Вялікую дапамогу аказвае і аўтобусны завод, які размешчаны на тэрыторыі раёна. На кожны выезд дзяцей заўсёды выдзяляецца аўтобус.

**Нарэшце, адкрыццё рэабілітацыйнага цэнтра адбылося. Гэта калі не цалкам, дык у асноўным зняло набалелыя пытанні. Выдзелена памяшканне для цэнтра, і сцены былога дзіцячага садка нумар 433 зноў пачулі дзіцячы смех. Праўда, праблемы з'явіліся новыя, аднак удзячныя бацькі і дзеці радуюцца свайму агульнаму дому.**

Асабліва трапятліва, з вялікай мацярынскай любоўю адносяцца В.Я. Пратасевіч і Т.А.Крук да жадання дзяцей самавыразіцца, знайсці сабе занятак па душы. Малююць амаль усе: хто як можа і на што здольны. Дзіцячая творчасць, бадай, самае светлае і лірычнае, што робіцца ў арганізацыі. І адначасова шчымлівае...

Гледзячы на прасветленыя твары сваіх субяседніц–спадарожніц, слухаю новы аповед пра яшчэ адну сям'ю, якая выхоўвае дзіця–інваліда. І разумею: наколькі праблема дзяцей–інвалідаў сур'ёзная і злабадзённая, што вырашаць яе трэба на дзяржаўным узроўні. І, магчыма, з навукова-абгрунтаваных новых пазіцый. Бо ўсе пытанні грамадская арганізацыя вырашыць не ў стане, як бы ні стараліся яе кіраўнікі.

Хаваю слёзы ад сваіх субяседніц, уражаная лёсамі людзей, з якімі пазнаёмілася. А мае спадарожніцы ўжо распавядаюць пра Ірачку Шэлег, якая ўсё жыццё прыкавана да ложка і якую ў калясцы бацька заўсёды прывозіць на святы. Сям'я ў іх дружная, і бацькі робяць усё неабходнае, каб дачка магла мець зносіны з равеснікамі. Так, як і шаснаццацігадовая Лена Бычок. У сям'і яна адзінае дзіця. Дзяўчынка шмат чытае, любіць паэзію, цудоўна вяжа. Яна не можа без чалавечых зносін, і тэлефон для яе – выхад у свет.

Лёсы людскія. Колькі падчас гора звальваецца на чалавека невядома адкуль і ў самы нечаканы момант! Хіба думала Надзея Сакалова, што радасць нараджэння дачкі прынясе з сабою гаркоту на ўсё астатняе жыццё! Што яе добрыя блакітныя вочы доўга не будуць высыхаць ад слёз, а сэрца ледзьве змірыцца з рэчаіснасцю. Але перамагла, выстаяла і ідзе па жыцці, схаваўшы свой боль ад людскіх вачэй за душэўнай прыветнай усмешкай. Убачыўшы гэтую жанчыну з пачуццём гумару і заўсёды са шчырай усмешкай, ніколі не згадаеш нават, якая бяда яе напаткала.

Памятаю, як шмат гадоў таму яна выходзіла з чатырохгадовай Танюшкай на вуліцу і вучыла яе хадзіць. Ножкі ў дачкі не слухаліся, ручкі бяссільна трымаліся ў зафіксаваным хваробай становішчы, а яна настойліва вадзіла яе ля пад'езда штодня, спадзеючыся на Божую міласць. Старэйшы сын Андрэй таксама вучыў сястру хадзіць, і няўпэўнена, з падтрымкай, Танюшка пачала трымацца на ножках ды рабіць самастойныя крокі. Для Надзеі гэта было цудам і сапраўднай перамогай. Сёння Таццяне дзевятнаццаць. Прыгажуня, дагледжаная клапатлівай матуляй, яна, на жаль, поўнасцю ў палоне хваробы. Рухаецца толькі з матчынай дапамогай, ды і то вельмі мала, сябе не абслугоўвае, і за сваё жыццё не сказала ніводнага слова. Бясконцае гора матулі. Доўгія гады ведаю Надзею як чалавека адкрытай і бязмежна добрай душы. Кожнаму дапаможа, падтрымае, супакоіць. Шчыра спачуваю яе бясконцаму гору і ганаруся веліччу духу, магчымасці не здавацца паўсядзённым жыццёвым выпрабаванням, а ціха рабіць мацярынскі подзвіг. А бяда не адступае. І ўжо маленькі ўнучак становіцца інвалідам. Адно выратаванне – родная Асацыяцыя, дзе яны ўсе разам і аднолькавыя ў адным вялікім горы.

...Мы сядзім у невялічкім пакойчыку і гутарым. Вольга Яўгенаўна з ахвотай распавядае пра хворых дзяцей, быццам яна іх маці. Аб праблемах арганізацыі гаворыць як пра свае ўласныя.

– Калі спачатку мы хацелі адзець, абуць дзяцей, набыць памперсы, – гаворыць яна, – то потым стала галоўным – зносіны дзяцей між сабою. І бацькоў таксама. Бо чалавечыя зносіны – гэта развіццё. Таму на парадку дня ў нас раней было жаданне як мага хутчэй адкрыць рэабілітацыйны цэнтр. Для вырашэння гэтага пытання прыкладвалася шмат намаганняў. У цэнтры мы меркавалі адаптаваць нашых хворых дзяцей, каб яны пастаянна маглі мець зносіны хаця б з такімі ж, як самі. Другая важная задача, якая дагэтуль нас хвалюе, – мець магчымасць кансультацыі вузкіх спецыялістаў, пачынаючы з дня нараджэння дзіцяці.

І, нарэшце, адкрыццё рэабілітацыйнага цэнтра адбылося. Гэта калі не цалкам, дык у асноўным зняло набалелыя пытанні. Выдзелена памяшканне для цэнтра, і сцены былога дзіцячага садка нумар 433 зноў пачулі дзіцячы смех. Праўда, праблемы з'явіліся новыя, аднак удзячныя бацькі і дзеці радуюцца свайму агульнаму дому.

Хочацца зазначыць, што Заводская Асацыяцыя – адна з лепшых у рэспубліцы. Моцная сілай духу яе кожнага члена, умелым кіраўніцтвам і дабрынёй усіх дыспетчараў, асабліва з мікрараёна "Шабаны", гасціннасцю гаспадыні Таццяны Рыгораўны Ніколенкі, якая сустракае гасцей сваімі піражкамі, беляшамі, баршчамі. Таццяна Віктараўна Матроніна і галоўны дыспетчар Алена Браніславаўна Зуева. Ды ці ўсіх назавеш? Іх нямала, хто дапамагае праводзіць святы, вывозіць дзяцей на экскурсіі або на прыроду. Усе яны лічаць за шчасце збірацца разам і шчыра дзякуюць усім, хто спрыяе такой выратавальнай для хворых дзяцей магчымасці. Кіраўнікі Асацыяцыі выказваюць падзяку адміністрацыі Заводскага раёна і пастару царквы "Вефіль" У.А.Сушчэню, спонсарам, старшыні раённага камітэта Чырвонага Крыжа Яўгеніі Прохараўне Брусенскай, якая мае вялікае бескарыслівае сэрца. Яна заўсёды падтрымае словам, дапаможа справай. Выдатная рыса яе характару – разумець іншых. А бывае ж і наадварот. Перад злом нават моцныя духам могуць заплакаць.

..Перада мной працы дзяцей–інвалідаў. Фларыстыка Сяргея Кісельнікава, вышыўка Уладзіка Жыўнова, звязаная пруткамі Божая кароўка Лены Бычок, графічны малюнак Вольгі Емяльянчык, калаж Іры Рапавец, незвычайна прыгожа, па–майстэрску напісаныя карціны Грышы Мазаля і многае іншае. Надыдзе час, і гэтыя працы ўпрыгожаць музей Асацыяцыі, стаўшы яе гісторыяй, скарбам, у якім увасоблены цэлы свет дзіцячай фантазіі. Зразумець яго і палюбіць – абавязак кожнага неабыякавага сэрца.

**Ганна КАШУБА.**

# Каб разарваць заганнае кола

***Змест і арганізацыйныя формы работы ў масавай школе зведалі за апошнія гады істотныя змены. Галоўным арыенцірам для школьных пераўтварэнняў становяцца інтарэсы дзіцяці. У адпаведнасці з рэформай агульнаадукацыйнай школы распрацавана і зацверджана канцэпцыя рэфармавання спецыяльнай адукацыі, якая прадугледжвае стварэнне роўных магчымасцей для атрымання адукацыі дзецьмі з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, забеспячэння аптымальных умоў для іх асобаснага развіцця і сацыяльнай адаптацыі.***

Сёння ў Кастрычніцкім раёне Магілёва існуе дастаткова разгалінаваная сетка спецыяльных класаў і груп для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Тут невялікая напаўняльнасць (ад 3 да 12 чалавек). У рабоце з дзіцем удзельнічае вялікая колькасць спецыялістаў: выхавальнікаў, дэфектолагаў, псіхолагаў, сацыяльных педагогаў, лагапедаў, урачоў, якія маюць высокі прафесійны ўзровень, вялікі стаж працы, а таксама валодаюць разнастайнымі формамі арганізацыі карэкцыйнага навучання і лячэбна–аздараўленчых мерапрыемстваў, што садзейнічае раскрыццю і рэалізацыі патэнцыяльных магчымасцей дзіцяці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

У 2001–2002 навучальным годзе ў Кастрычніцкім раёне Магілёва функцыянуюць 6 дашкольных моўных груп; 22 спецкласы, у якіх навучаюцца 254 вучні. Акрамя таго, істотнай формай дапамогі дзецям стала арганізацыя ў раёне класаў інтэграванага навучання. Такіх класаў цяпер – 31. У іх вучацца 56 чалавек.

Пры сярэдніх школах Кастрычніцкага раёна працуюць 7 пунктаў карэкцыйна–педагагічнай дапамогі, у якіх атрымліваюць дапамогу 280 вучняў.

Дзецям, стан здароўя якіх выключае магчымасць іх знаходжання ў агульнаадукацыйных установах, са згоды бацькоў арганізавана навучанне дома па агульнаадукацыйнай, спецыяльнай і індывідуальнай праграме.

Камплектаванне спецыяльных груп, класаў, пунктаў карэкцыйна–педагагічнай дапамогі, а таксама вызначэнне шляхоў і магчымасцей навучання дзяцей з цяжкасцямі ў навучанні знаходзіцца ў кампетэнцыі Цэнтра карэкцыйна–развіццёвага навучання. Псіхолага–медыка–педагагічная камісія цэнтра ахоплівае ўсе адукацыйныя ўстановы раёна. На працягу года звыш тысячы дзяцей штогод праходзяць кансультацыйна–дыягнастычнае абследаванне. Асаблівасцю работы Цэнтра карэкцыйна–развіццёвага навучання і рэабілітацыі з'яўляецца перш за ўсё захаванне правоў дзіцяці. У раёне ёсць банк даных пра дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, які пастаянна абнаўляецца, што дазваляе сумесна з раённым аддзелам адукацыі весці работу па прагназаванні і развіцці сеткі спецыяльных устаноў, прасачыць дынаміку развіцця такіх дзяцей, суправаджаць іх у працэсе навучання і выхавання.

Раённы метадычны кабінет сумесна з цэнтрам арганізуе пастаянную вучобу і аказвае метадычную дапамогу настаўнікам, выхавальнікам, спецыялістам, якія працуюць з дзецьмі з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Так, у раёне працуе метадычнае аб'яднанне спецыялістаў школьных пунктаў карэкцыйна–педагагічнай дапамогі, настаўнікаў–лагапедаў дашкольных устаноў, выхавальнікаў спецгруп дашкольных устаноў. Штогод праводзяцца семінары з настаўнікамі, якія вядуць навучанне дома, пастаянна аказваецца метадычная дапамога настаўнікам, выхавальнікам, што працуюць у інтэграваных класах. Акрамя таго, праведзена звыш тысячы кансультацый для бацькоў.

Разумеючы важнасць кадравага забеспячэння школ спецыялістамі адпаведнага профілю, на базе Магілёўскага педагагічнага каледжа ўжо 5 гадоў вядзецца падрыхтоўка настаўнікаў пачатковых класаў з правам навучання дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ў інтэграваных класах. Студэнты гэтага педкаледжа, якія атрымліваюць спецыялізацыю настаўніка інтэграваных класаў, пастаянна праходзяць практыку на базе сярэдніх школ, што маюць багаты вопыт у рабоце з такімі дзецьмі.

У раёне плануецца ў наступныя гады адкрыць пры ўсіх школах пункты карэкцыйна–педагагічнай дапамогі, максімальна развіць сетку дашкольных спецыялізаваных устаноў.

Аднак разам са станоўчымі тэндэнцыямі ў спецыяльнай адукацыі застаюцца актуальныя пытанні аб'яднання намаганняў і стварэння ўмоў для зладжанасці дзеянняў усіх спецыялістаў сумежных галін (медыкаў, педагогаў, сацыяльных работнікаў), гатовых ажыццяўляць у гэтай сферы актыўнае міжведамаснае ўзаемадзеянне.

Сучасныя ўмовы жыцця, патрабаванні, якія прад'яўляюцца да выпускнікоў школ, вымагаюць удасканалення матэрыяльна–тэхнічнай базы спецыяльнай адукацыі. Гэта ў першую чаргу звязана з выкарыстаннем адпаведных тэхнічных сродкаў навучання, такіх, як камп'ютэр, вучэбныя і дыягнастычныя відэапраграмы, спецыяльная апаратура калектыўнага карыстання для карэкцыі слыху і г.д.

Адной з важных задач на наступныя гады застаецца задача павышэння адказнасці масавай школы за якасць навучання дзяцей у інтэграваных, спецыяльных класах, за стварэнне ў іх належнай вучэбнай прасторы для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Асаблівая ўвага павінна звяртацца на ранняе выяўленне такіх дзяцей яшчэ ў дашкольным узросце, таму што з-за шэрагу прычын ніяк не ўдаецца разарваць тое заганнае кола, калі спачатку дапускаюцца адхіленні ў развіцці дзіцяці, а потым выпраўляюцца.

**Віктар ГРУЗДОЎ,**
**дырэктар Цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі Кастрычніцкага раёна Магілёва.**

Як жывеш, дзіцячы сад?

# Дзяржаўтаінспектар - госць садка...

***Калі здараецца быць на аўтастанцыі ў Іўі, старшы лейтэнант міліцыі Валерый Венскель заварочвае ў дзіцячы садок № 4, што знаходзіцца побач. Дзяржаўтаінспектар тут часты госць. А цікавіцца ён тым, як ідуць справы па вывучэнню Правіл дарожнага руху.***

Справа ў тым, што гэтая дзіцячая ўстанова – адна з лепшых у раёне па прафілактыцы дзіцячага транспартнага траўматызму. І як тут не згадаць Людмілу Станкевіч? Маладая выхавальніца цікавіцца тэхнікай, водзіць аўтамашыну. Ведае, што такое дарога, і гарыць жаданнем, каб і дзеці навучыліся правільна сябе паводзіць, калі становяцца удзельнікамі дарожнага руху. З такім разлікам і наладжвае яна работу з дашкалятамі.

Вучоба разлічана на год. Што ні месяц – тэма. Напрыклад, у верасні дзеці пад кіраўніцтвам выхавальніцы знаёмяцца з вуліцай: гэта не проста дарога – а месца для руху аўтатранспарту і пешаходаў. У кастрычніку малыя даведваюцца, што рух гэты – даволі складаны, а таму і робіцца разметка праезнай часткі. У лістападзе яны спрабуюць сябе ўжо ў якасці пешаходаў. Затым вучацца паводзіць сябе ў грамадскім транспарце. У наступны месяц у госці да дзяцей прыходзіць святлафор. Прычым Людміла Віктараўна робіць гэтую сустрэчу крыху незвычайнай. Святлафор – "жывы": чалавек у кардонным футляры з круглымі вакенцамі – чырвонае, жоўтае, зялёнае. Дзецям так цікавей, бо "рэгуліроўшчык" не толькі выконвае свае непасрэдныя абавязкі, але і адказвае на пытанні. Вывучэнне правіл суправаджаецца праглядам лялечных спектакляў і дыяфільмаў, конкурсных малюнкаў. А завяршаецца навучальны год музычным спектаклем "Таямніцы дарожных знакаў".

Садок на грошы не багаты. Таму выхавальнікі сваімі рукамі пабудавалі спецыяльную пляцоўку, устанавілі дарожныя знакі. Значную дапамогу ім у гэтай справе аказаў Валерый Венскель.

...У садку жыве такая традыцыя. Выпраўляючы дзяцей дамоў, выхавальнік абавязкова пацікавіцца, якія правілы руху яны будуць выконваць на сваім шляху. Вядома ж, дзіця вядзе за руку хтосьці з дарослых. А "гідам" усё ж з'яўляецца дашкольнік. Чым не урок па правілах дарожнага руху?

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ.**

З пошты

# Ці дачакаемся канца рамонту?

*Добры дзень, паважаная рэдакцыя!*

*Звяртаюцца да вас бацькі і вучні Бабраняцкай базавай школы Мазырскага раёна Гомельскай вобласці. Справа ў тым, што яшчэ ў чэрвені нашу школу закрылі на капітальны рамонт, паабяцаўшы, што школа будзе падрыхтавана да навучальнага года, але ўжо скончылася першая чвэрць, а канца рамонту не відаць.*

*У верасні нашы дзеці адпачывалі ў санаторыі, мы спадзяваліся, што ўжо за гэты час усё будзе зроблена. Але...*

*Цяпер дзецям даводзіцца вучыцца ў суседняй, Крынічанскай школе, у другую змену. Вось і ўявіце сабе, як адчуваюць сябе вучні (а іх амаль семдзесят чалавек) і настаўнікі.*

*Цяпер работы па рамонце школы спынены, вось ужо тры тыдні нічога не робіцца з–за таго што няма сродкаў.*

*У Мазырскім райвыканкаме, а таксама і ў раённым аддзеле адукацыі адказ адзін: няма сродкаў і браць няма дзе.*

*Паважаная рэдакцыя, вельмі спадзяёмся на вашу дапамогу. Калі ласка, дапамажыце.*

*Будзем вельмі ўдзячны вам.*

З павагаю да вас дзеці і бацькі Бабраняцкай школы:

**Е.БОБР, С.МЫЛКО, М.ЗАВАЛЕЙ, Н.ВЕРАКСА і інш.**

У Адміністрацыі Прэзідэнта знайшлі разуменне і падтрымку маці хворых на дыябет дзяцей з Крычаўскага раёна. Для кантролю за ўтрыманнем глюкозы ў крыві, які неабходна праводзіць рэгулярна, яны атрымалі дарагія глюкаметры і гадавы запас расходнага матэрыялу для правядзення экспрэс-аналізаў.

НА ЗДЫМКУ: васьмігадовы Артур Таптыга ўпэўнены ў дабрыні людзей.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

Урок, які выхоўвае

# Падарожжа ў сівую мінуўшчыну,

## альбо Чаму Адам з'еў яблык?

***Урок па беларускай літаратуры ў 10 "А" вяла Валянціна Аляксандраўна Драгун. Тэма ўрока складаная: "Барока і Асветніцтва ў беларускай літаратуры". П'еса К.Марашэўскага "Камедыя". Сама настаўніца вызначыла форму сваіх заняткаў як праблемны ўрок-гутарка, адна з тых, якой настаўніца свядома аддае перавагу і выкарыстоўвае на практыцы.***

Мы – у 50-й сярэдняй школе сталіцы, статус якой – навучальная ўстанова з матэматычным ухілам. Тут вучыцца 1231 чалавек з усяго горада, пераважна хлопчыкі. Прымаюцца дзеці на конкурснай аснове. Сёлета, напрыклад, быў конкурс чатыры чалавекі на месца.

10 "А" – ліцэйскі клас з паглыбленым вывучэннем фізікі і матэматыкі. У класе – адны юнакі. Аднак фізікі і матэматыкі прадэманстравалі на ўроку ў пятніцу, 16 лістапада, глыбокую зацікаўленасць у гісторыі Айчыны, бліскучыя веды, уменне разважаць, палемізаваць . На такіх уроках, як гэты, выхоўваюцца грамадзянскія пачуцці вучняў, урэшце – патрыёты нашай краіны. І ў гэтым, бадай, самы галоўны выхаваўчы аспект усіх заняткаў у Валянціны Аляксандраўны Драгун.

Тады ж, седзячы на апошняй парце ва ўтульным, цёплым кабінеце беларускай мовы і літаратуры, я ў нейкі момант чамусьці падумала: "На дварэ – 21 стагоддзе, чалавецтву пагражае тэрарызм, ідзе жорсткая вайна ў Афганістане, а беларускія школьнікі – і якое ж гэта шчасце! – на ўроках роднай літаратуры вывучаюць творчасць славутых людзей Айчыны, разважаюць на прыкладах іх лёсаў пра сэнс жыцця. Як жа гэтым не даражыць? І чаму мы не заўсёды ўсведамляем і цэнім тое, што сёння такую магчымасць маем?" І раптам ахоплівае пачуццё гонару за тых, хто робіць такую пачэсную справу – вучыць нашых дзяцей цаніць і любіць мінулае, ведаць і шанаваць гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, працай (дый добрай вучобай!) памнажаючы яе багацці.

– Наша гісторыя, – пачынае ўрок Валянціна Аляксандраўна Драгун, –павінна жыць у нашай памяці. А для таго каб яе ведаць, мы павінны яе вывучаць.

Перш чым прыступіць да новай тэмы, настаўніца прапануе дзесяцікласнікам паўтарыць пройдзены матэрыял, успомніць і замацаваць ужо набытыя веды.

– На працягу другой чвэрці, – падкрэсліла яна, – мы з вамі заглядваем у сівую мінуўшчыну, на прыкладах літаратурных твораў вывучаем гісторыю Бацькаўшчыны, даведваемся, як жылі продкі і адкуль нашы карані.

І далей на ўроку вучні робяць захапляльны экскурс у эпохі Сярэднявечча, Адраджэння, Рэфармацыі і Контррэфармацыі. Гучаць імёны прадстаўнікоў гэтых эпох. Францыск Скарына, Сымон Будны, Мікола Гусоўскі, Кірыла Тураўскі, Мялецій Смятрыцкі. Вучні ацэньваюць ролю кожнага ў развіцці беларускай культуры і літаратуры, вызначаюць асноўныя тэндэнцыі. Гісторыя і літаратура цесна ўзаемапераплятаюцца паміж сабой.

Дзе тыя вытокі, адкуль пачынала нараджацца наша літаратура? Калі на Беларусі склаліся перадумовы для развіцця культуры эпохі Адраджэння і хто яе прадстаўляе? На аснове якіх крыніц даследуецца паходжанне беларусаў і якія погляды існуюць наконт гэтага? Як утварылася беларуская мова? Якое было веравызнанне ў першых славян на Беларусі? Чым знакамітыя Кірыла Тураўскі і Мікола Гусоўскі? Назавіце асноўныя рысы літаратурных плыняў Барока і Асветніцтва. Калі была выдадзена "Песня пра зубра і што гэта за літаратурны твор? Гэта – далёка не поўны пералік пастаўленых перад юнакамі пытанняў, і вучань не зможа глыбока засвоіць новую тэму ўрока, не адказаўшы на іх.

Былі адказы дзесяцікласнікаў, якія Валянціна Аляксандраўна ацаніла высокім балам – "дзевяткай". Ужо другі год у гэтай школе веды вучняў ацэньваюцца па дзесяцібальнай шкале. І вучні, і настаўнікі вітаюць яе. Праўда, "дзевяткамі" і "дзесяткамі" В.А.Драгун не любіць "кідацца", бо гэтыя адзнакі патрабуюць ад вучня глыбокіх ведаў, плённай і творчай, сістэмнай, калі хочаце, працы над сабой.

– Па-першае, – разважае Валянціна Аляксандраўна, – вучань, які прэтэндуе на такую адзнаку, павінен вызначацца самастойнасцю і арыгінальнасцю мыслення. У 10 "А" такія вучні, безумоўна, ёсць. Напрыклад, Яўген Жамойдзін. Вы мелі цудоўную магчымасць у гэтым пераканацца, на ўроку амаль усе вучні актыўна працавалі: Юра Кузьміч, Улад Садоўскі, Валодзя Веяўнік, Вадзім Глушачэнка, Аляксей Лягонін. Мы пачулі ад іх глыбокія, лагічныя выказванні. Яны прыгожа гавораць на роднай мове. І ў мяне ўзнікае глыбокае пачуццё задавальнення, калі чую выдатныя адказы, калі мае вучні дэманструюць добрыя веды.

– Францыск Скарына быў тытанічнай постаццю эпохі Адраджэння, – прыгадваю адказ аднаго з дзесяцікласнікаў. – Вучоны, пісьменнік, перакладчык, гуманіст і асветнік, які аказаў вялікае ўздзеянне на развіццё беларускай культуры. Менавіта Скарына даў беларускаму народу друкаваную кнігу на яго роднай мове, надрукаваў 23 кнігі Біблії, а ў Вільні заснаваў друкарню, дзе выпусціў "Малую падарожную кніжку" (1522) і "Апостал" (1525)!

– Хто такі Мікола Гусоўскі і якія творы належаць яго пяру? – пытанне настаўніцы па ходу ўрока. Адказ: літаратурная спадчына беларускага паэта-гуманіста ўвайшла ў скарбніцу еўрапейскай культуры, – разважае дзесяцікласнік Улад Садоўскі. – Яго пяру належаць тры паэмы, больш за дзесяць вершаў, але гімнам Бацькаўшчыны стала "Песня пра зубра" – паэма жыцця, якую ён напісаў у 1522 годзе ў Рыме.

– На якой мове была напісана "Песня пра зубра"? – пытанне настаўніцы.

– На беларускай, – гучыць адказ.

– Няправільна. На лацінскай.

І далей – рэмарка настаўніцы: тады творы пісаліся на славянскай, старабеларускай, лацінскай і польскай мовах. Заклікае: гэта трэба ведаць!

– Пра што расказваецца ў творы Гусоўскага? – яшчэ адно пытанне.

– Паэт выказаў гарачую любоў да роднай зямлі. З вялікай мастацкай сілай намаляваў жыццё простых людзей, гераічнае мінулае свайго народа, стварыў паэтычны вобраз Вітаўта, асудзіў міжусобныя войны. Мікола Гусоўскі – пясняр прыроды, працы і свабоднага чалавека. "Песня пра Зубра" была выдадзена ў кракаўскай друкарні ў 1523 годзе.

Вучні называюць пісьменнікаў-гуманістаў, якія працягвалі традыцыі Францыска Скарыны і Міколы Гусоўскага: Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Лявонція Карповіча, Мялеція Сматрыцкага. Яны выступалі супраць нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту.

– Іх творы, – падкрэсліла на ўроку настаўніца, – былі асветлены высокім пачуццём – любоўю да Радзімы.

Нехта з вучняў закрануў тэму мовы. Яе лёс іх хвалюе. На ўроку прагучаў такі факт, што ролю дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова выконвала да 1696 г. Такія даты трэба ведаць і памятаць. Лёс нашай роднай мовы быў цярністым спрадвеку.

Цікавым на ўроку быў і аналіз п'есы К.Марашэўскага "Камедыя". Невялічкая па аб'ёму, яна была напісана ў 1787 годзе. Гэта другая палова 18 стагоддзя – час Барока і Асветніцтва.

– У свой час, – нагадвае настаўніца вучням, – Марашэўскі працаваў настаўнікам рыторыкі. Тады на Беларусі развіваліся школьны тэатр, палітычная сатыра і паэзія. Сёння нам вядома каля ста лацінскіх і польскіх вучэбных драм і каля дваццаці інтэрмедый.

Інтэрмедыі, а ў будучым камедыі, ставілі самі вучні. Тады гэта было, так бы мовіць, вельмі папулярна, модна. І вось – "Камедыя" Марашэўскага. Яго герой – просты селянін Дзёмка, які ўпершыню загаварыў на беларускай мове. Не вышэйшае саслоўе на першым плане, а селянін стаў галоўным героем твора. І гэта быў прагрэс для таго часу. Увогуле кожная гістарычная эпоха нясе ў сабе нешта сваё, новае і прагрэсіўнае. Так было заўсёды.

Галоўныя героі п'есы "Камедыя" – сялянін, жыд і чорт. Якую ж задачу ставіў перад сабой аўтар? Чаму пакутуе сялянін і ўвесь час наракае на сваё жыццё, жывучы ў горы. Працуе шмат, а выніку – няма. Мае слабасць – любіць выпіць. П'е і яго жонка. Сын хварэе. Грошай – няма. Доўг жыду няма як і чым аддаць. Год выдаўся неўраджайны. У яго маналогах пануе слова "гора"! Гора па жыцці праследуе селяніна! І жыве ён як гарамыка.

– На якой мове гаворыць селянін? – пытаецца настаўніца.

– На трасянцы! – пачулі мы адказ вучня.

На што Валянціна Аляксандраўна сумна адрэагавала:

– Дарагія мае, на той час гэта была добрая "трасянка", добрая беларуская мова.

Васемнаццатае стагоддзе! Асветніцтва на Беларусі.

Настаўніца нагадвае, што п'есу "Камедыя" ў школьныя праграмы ўключылі ўсяго тры гады назад. П'еса пралівае святло на гісторыю беларусаў, і ў гэтым яе каштоўнасць.

Аднак вернемся да зместу п'есы. Дык чаму і ад чаго пакутуе селянін?

– Ад гарэлкі, – жартуе нехта з вучняў.

– Ад паноў і такіх арандатараў, як жыд, – дадае другі.

– У п'есе аўтар уводзіць біблейскі сюжэт. Селянін пастаянна наракае на Адама за тое, што той з'еў яблык – вялікая памылка Адама, ад якой гора вось такім, як Дзёмка. Вучні называюць элементы літаратурнай плыні Барока, у якім рэальнае пераплятаецца з біблейскім, нерэальным, міфічным. І ў гэтым ёсць глыбокі сэнс.

У фінале п'есы фармальна перамагае чорт, – разважаюць вучні. Селянін не вытрымаў жыццёвых выпрабаванняў і трох выпрабаванняў чорта. Але ж селянін – чалавек! Чалавек, які кіруецца гуманнымі ўчынкамі і ўласнай воляй. Чалавек сам гаспадар свайго лёсу – гэта галоўная ідэя п'есы Марашэўскага. І вучні гэта падкрэслілі і ўсвядомілі.

Дадам, што на ўроку Валянціны Аляксандраўны Драгун панавала вельмі добразычлівая атмасфера. На яе уроку – лёгка. Падводзячы вынікі, настаўніца дзякуе тым, хто актыўна працаваў, мысліў. Дзесяцікласнікі атрымалі заданне на дом – прачытаць "Энэіду навыварат".

Нагадаю, што мной узяты толькі асобныя моманты ўрока, на мой погляд, найбольш істотныя. Хаця важна ўсё, што прагучала на ім. У гісторыі дробязяў няма. Кожны яе факт – можа, на першы погляд нам часам здаецца і нязначным – залатая крупіначка нашай памяці, памяці нашых продкаў.

– Адной гадзіны на такую складаную тэму вельмі мала, – ужо пазней, "у кулуарах" гаварыла Валянціна Аляксандраўна. – На жаль, навучальныя планы пакінулі ранейшыя, а колькасць гадзін на тыдзень на мову і літаратуру скарочана. Настаўніку даводзіцца выходзіць са становішча, спасылаючыся на ўласны вопыт і прафесійную інтуіцыю. Не хапіла часу на працу з тэкстам. Хацелася б, каб вучні зачыталі маналогі.

На ўроку ў 10 "А" прысутнічала і дырэктар школы Алена Антонаўна Комель. Урокам калегі яна засталася задаволена. Мэта ўрока дасягнута.

– Як вы заўважылі, Валянціна Аляксандраўна грунтуе свае ўрокі на праблематыцы. Гэта яе почырк. На занятках дзесяцікласнікі разам з настаўніцай не толькі аналізавалі творы, а і вызначалі, характарызавалі літаратурныя напрамкі. У дадзеным выпадку – Барока і Асветніцтва. Тэорыю беларускай літаратуры настаўніца ўдала спалучыла з гісторыяй нашай Айчыны. Валянціна Аляксандраўна-вельмі творчы чалавек! У яе свая выпрацаваная за трыццаць гадоў у школе сістэма. Настаўніца выкарыстоўвае розныя формы ўрока, дае вучням апераджальныя заданні. У яе вучняў глыбокія веды па прадмету.

Такім быў урок і нашы ўражанні ад яго.

**Святлана БЕНЬ.**

НА ЗДЫМКАХ: у час урока.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Вопыт

# Дзеці любяць вучыцца вачамі

***Праз вочы мы атрымліваем больш за 90 працэнтаў усёй інфармацыі. Таму нікому не трэба даказваць, што пры навучанні самых маленькіх школьнікаў варта як мага больш выкарыстоўваць розную нагляднасць. Дзеці хутка запамінаюць усё яркае, маляўнічае, пабудаванае не на абстрактных паняццях, а на канкрэтных вобразах.***

У Марыі Мікалаеўны Драздовай, настаўніцы пачатковых класаў з сярэдняй школы № 2 Слаўгарада, назапашаны вялікі вопыт па выкарыстанні апорных схем і нагляднасці на ўроках. Наглядныя дапаможнікі да заняткаў яна робіць сама з самых розных матэрыялаў. Яны ўражваюць сваёй арыгінальнасцю і прастатой. Гэта шпалеры, бутэлькі з-пад мінералкі і г.д.

Такія наглядныя дапаможнікі настаўніца зрабіла да кожнага прадмета і распрацавала методыку іх выкарыстання.

З першага дня дзіцяці ў школе Марыя Мікалаеўна ўводзіць у заняткі гульню. Тут ёй дапамагаюць яркія казачныя героі з кардону. Таму на ўроках –заўсёды цікава. Літары вывучаюцца па картках вандравання, а чытанне адпрацоўваецца ў "казачнай хатцы".

На занятках па рускай мове звычайна бываюць такія хвілінкі чыстапісання, дзе выкарыстоўваюцца карткі са сказамі, словамі, словазлучэннямі, плакаты з росчыркамі і г.д.

У класе ёсць закуточак "Кажы правільна", дзе змяшчаюцца матэрыялы па культуры маўлення. Марыя Мікалаеўна лічыць сваім прынцыпам у рабоце – кароткасць тлумачэння і шматразовае паўтарэнне. Па яе меркаванні, пры паўтарэнні матэрыял быццам бы нанава асэнсоўваецца, змест паглыбляецца і пашыраецца. У класе пасялілася дзяўчынка "Паўтаралачка", якая прыносіць на заняткі пытанні для паўтарэння, якія запісаны на лістках і сістэматызаваны па тэмах. Для самастойнай работы ў дзяцей ёсць памяткі, якія падказваюць ім, у якім парадку выконваць работу, дапамагаюць правярыць выкананае заданне і прывучаюць да самастойнасці.

Каб развіць кісць рукі, маленькія школьнікі часта працуюць з трафарэтамі з кардону, яны абводзяць і заштрыхоўваюць у паказаным кірунку. На ўроках чытання для развіцця аператыўнай памяці дзеці пішуць зрокавыя дыктанты на палосках паперы. І на кожным занятку Марыя Мікалаеўна прыводзіць таксама моўныя размінкі, у якія ўключае і скорагаворкі, напісаныя на плакаце, што эканоміць час настаўніка. Па чытанні таксама ёсць свой закуточак, дзе вывешваюцца памяткі "Што чытаць" і спіс літаратуры па пазакласным чытанні.

Матэматыка. На ёй таксама шмат месца ўдзяляецца нагляднасці. Вусны лік праводзіцца пры дапамозе розных плакатаў, схем, картак. Прыгожыя прадметныя малюнкі арганізоўваюць дыдактычныя гульні. Заслугоўвае ўвагі такая нагляднасць па вывучэнні складу лічбаў у выглядзе "домікаў", "чалавечкаў" і г.д. Вельмі шырока Марыя Мікалаеўна карыстаецца на ўроках матэматыкі апорамі – першакарткамі. Шмат такіх першакартак зроблена ёю для навучання задач рознага віду.

Да ўрокаў выяўленчага мастацтва і працы настаўніца падрыхтавала альбом з узорамі вырабаў і шаблоны для кожнага вучня. Тады праца робіцца з цікавасцю, акуратна, прыгожа. Усемагчымы раздатачны матэрыял – карткі, прадметныя малюнкі, фігуры прадметаў – настаўніца робіць таксама сама.

Для ўзмацнення зваротнай сувязі паміж вучнямі і настаўнікам Марыя Мікалаеўна дамагаецца праз сігнальныя карткі, якія дазваляюць за кароткі час пракантраляваць работу ўсяго класа. Гэта яшчэ ўцягвае дзяцей у актыўную працу.

Настаўніца ўмела спалучае на ўроках разумовую і фізічную нагрузку. Ладзяцца фізкультхвілінкі, ці, як яна іх яшчэ называе, хвілінкі радасці. І тут сваё месца знаходзяць плакацікі-сігналы (якія паведамляюць, якая фізхвілінка зараз будзе), плакаты з вершамі і песенькамі.

Уся нагляднасць захоўваецца ў кабінеце ў строгім парадку і ў сістэме, такім чынам, каб настаўнік змог хутка адшукаць неабходны яму дапаможнік.

Марыя Мікалаеўна Драздова мае першую катэгорыю, узнагароджана ганаровымі граматамі Слаўгарадскага раённага аддзела адукацыі і Магілёўскага абласнога аддзела адукацыі. Яе вопыт абагульнены, і яна з ахвотай дзеліцца ім са сваімі калегамі.

**Святлана КІРСАНАВА.**

У дапамогу настаўніку

# Нагляднасць робіць урокі цікавейшымі

***Нагляднае навучанне, паводле слоў К.Д.Ушынскага, - такое навучанне, якое будуецца не на адцягненых уяўленнях і словах, а на канкрэтных вобразах, непасрэдна ўспрынятых дзіцем.***

Прынцып нагляднасці з'яўляецца агульнадыдактычным. Гэта азначае, што яго рэалізацыя мае важнае значэнне для паўнацэннага навучання любой дысцыпліне, на любым узроўні (і ў пачатковых класах, і ў сярэднім звяне, і ў старшых класах).

Разам з тым выкарыстанне гэтага прынцыпу ў пачатковым навучанні мае свае асаблівасці. Разгледзім найбольш важныя з іх.

Як вядома, у маленькіх вучняў пераважае канкрэтна-вобразнае мысленне. Таму ім лягчэй запамінаць вучэбны матэрыял, чым асэнсоўваць яго. У іх фарміруецца слоўна-лагічны тып мыслення, важнай умовай якога з'яўляецца выкарыстанне пры навучанні наглядных дапаможнікаў. Праца настаўніка са сродкамі нагляднасці павінна па магчымасці спалучацца з індывідуальнай работай вучняў з раздатачным наглядным матэрыялам.

У першы час затраты часу на індывідуальную работу з нагляднасцю будуць даволі значнымі, але пасля вучні набудуць адпаведныя навыкі, што ў далейшым аблегчыць арганізацыю работы са сродкамі нагляднасці, прывядзе да скарачэння часу, неабходнага на яе правядзенне.

Адна з галоўных мэт навучання ў пачатковай школе – развіццё ў дзяцей абстрактнага мыслення. Сродкі нагляднасці садзейнічаюць яе дасягненню ў тым выпадку, калі з цягам часу іх характар змяняецца: натуральныя наглядныя дапаможнікі (у якіх выкарыстоўваюцца прадметы з навакольнага для дзіцяці свету) саступаюць месца выяўленчым (у якіх выкарыстоўваюцца вобразы прадметаў), а яны, у сваю чаргу, – сімвалічным наглядным дапаможнікам (дзе прадметы, адносіны паказваюцца сімваламі – кружкамі, квадратамі, адрэзкамі, стрэлкамі, дужкамі, літарамі і г.д.). Пры гэтым важна, каб пераход да новага тыпу нагляднасці адпавядаў магчымасцям дзяцей абстрагавацца ад неістотных уласцівасцей аб'ектаў, якія выкарыстоўваюцца для ілюстрацыі.

Узровень абстрактнага мыслення ў вучняў аднаго класа можа быць неаднолькавым. У такім разе на ўроку адначасова выкарыстоўваюць розныя па ўзроўні абстрактнасці наглядныя дапаможнікі, напрыклад, натуральныя і выяўленчыя.

У сістэме наглядных дапаможнікаў для пачатковай школы адлюстроўваюцца асаблівасці ўсяго курса навучання ў пачатковай школе.

Роля настаўніка не абмяжоўваецца выкарыстаннем вядомых сродкаў навучання. Важным аспектам творчага падыходу да навучання з'яўляецца распрацоўка ім наглядных дапаможнікаў, методыкі іх выкарыстання.

Задача настаўніка – зрабіць працэс навучання радасным і цікавым, дапамагчы кожнаму дзіцяці пайсці далей у навучанні, засвоіць праграмны матэрыял глыбока і трывала.

Нагляднасць у навучанні – гэта не толькі вобразнае ўпрынящце ведаў, але і развіццё творчай, самастойнай дзейнасці вучняў. Гэта прыклад супрацоўніцтва настаўніка і вучня дзеля агульнай мэты.

"Усімі магчымымі спосабамі заахвочваць імкненне да ведаў і навучання" (Я.А.Каменскі).

Адным з такіх спосабаў у маёй працы з'яўляецца нагляднае навучанне, якое робіць мае ўрокі цікавейшымі.

### Да творчасці трэба рыхтавацца

Фарміраванне асноў творчасці – адна з галоўных задач праграмы працоўнага навучання ў пачатковых класах. Навучаючыся працы, малодшыя школьнікі набываюць усё неабходнае для творчасці: уменне мысліць самастойна і арыгінальна, крытычна падыходзіць да рэчаіснасці, здольнасць даводзіць вырашэнне атрыманых задач да канца, жаданне эксперыментаваць і назапашваць новы вопыт, кемлівасць і г.д.

Чым шырэйшыя дыяпазоны набытага на ўроках працоўнага навучання практычнага і тэарэтычнага вопыту, тым большыя ўмовы для развіцця ў дзяцей уяўлення, фантазіі, мыслення, а значыць, і творчасці.

Таму задача настаўніка – заахвочваць імкненне дзяцей прымаць самастойныя рашэнні па ходзе работы і выказваць нестандартныя, арыгінальныя ідэі, падрымліваць іх працоўную актыўнасць, жаданне як мага лепш выканаць работу, справіцца з ёй своечасова і датэрмінова; пашыраць магчымасці знаёмства з новымі матэрыяламі, спосабамі іх прымянення на практыцы, тэхналогіяй іх апрацоўкі. Бо навізна матэрыяльных і выяўленчых сродкаў і шматгранная дзейнасць – залог творчага стаўлення школьнікаў да ўрокаў працы. (Калі кожны ўрок займацца адным відам дзейнасці, дык ніякай творчасці не будзе.)

Пры ўмелым падыходзе да выканання праграмнага матэрыялу ў пачатковых класах можна стварыць мноства сітуацый для творчага самавыяўлення дзяцей.

Цікавы ў гэтых адносінах раздзел праграмы, звязаны з апрацоўкай паперы і кардону (самы любімы мной раздзел). Пры гэтым малодшыя школьнікі набываюць вопыт пераважна ў практычнай дзейнасці. Дзяцей у той жа час прываблівае і натхняе бачнасць і даступнасць матэрыялу, магчымасць увасаблення ідэй, думак, планаў у рэальны і відавочны вынік. Менавіта першапачатковая прастата, лёгкадаступнасць тэхналогіі не адштурхоўваюць дзяцей ад работы, фарміруюць у іх неабходныя творчыя якасці: упэўненасць у сабе, самапавагу і г.д. (Не паспееш раздаць паперу – "Я магу сам!") Дзеці хочуць хутчэй паспрабаваць зрабіць рэч, а без гэтых якасцей няма месца для творчасці, немагчыма выдаць нешта новае, сваё.

Вядома, што творчасць не можа ўзнікнуць на пустым месцы, сама па сабе, яе трэба рыхтаваць.

Таму пажадана загадзя ўсё прадумаць, прааналізаваць і вырашыць, з чаго пачаць, што і ў якой паслядоўнасці развіваць і фарміраваць, дакладна ўявіць, з якіх прыёмаў і метадаў складаецца работа. Гэта значыць, для развіцця і фарміравання дзіцячай творчасці неабходна скласці і распрацаваць цэлую сістэму ведаў і практыкаванняў, відаў вырабаў з улікам інтэлекту малых, метадычнага багажу і педагагічных рэалій школы, класа і г.д.

Я, напрыклад, выкарыстоўваю на ўроках вокладкі старых альбомаў, каробкі з-пад абутку, пачкі з-пад чаю, вермішэлі. Дзеці прыносяць самі матэрыял з дому.

Працоўнае навучанне ў пачатковай школе выконвае шэраг функцый агульна-развіццёвага значэння. Да іх адносяцца развіццё псіхічных працэсаў вучняў (мысленне, памяць, увага), пазнавальная функцыя, фарміраванне працоўных уменняў, развіццё творчых здольнасцей, арганізацыя самастойнай работы і г.д.

У навучанні маленькіх дзяцей шырока прымяняюцца розныя дыдактычныя гульні. У звыклай для сябе, натуральнай форме дзейнасці малеча не толькі набывае веды, але і прывучаецца да разумовай работы.

Калектыўная форма гульні, асабліва з элементамі спаборніцтва, узмацняе навучальны момант, таму што міжволі вымушае думаць, шукаць правільныя рашэнні. Зыходзячы з тэматыкі ўрока, настаўнік можа выбраць адпаведную гульню.

Напрыклад, гульня "Што гэта такое?". Настаўнік малюе на дошцы або паказвае вучням малюнкі знаёмых ім прадметаў, але ў нязвыклым ракурсе.

Дзеці павінны па выяве скласці прасторавы вобраз прадмета і назваць яго. Гэтую гульню можна праводзіць пастаянна, мяняючы графічны склад, падбіраючы малюнкі па тэмах, напрыклад, прылады працы і г.д.

Цікава выкарыстоўваць розныя варыянты гульні: частка малюнка пашкоджана, запэцкана, згарэла і да т.п. (варыянт II); мастак забыў дамаляваць прадмет (варыянт III); намаляваў некалькі прадметаў на адным месцы (варыянт IV); малюнак падраўся на некалькі частак (варыянт V) – найбольш складаная форма гульні, калі дзеці, перш чым скласці прадмет, павінны ў думках злучыць розныя кавалкі ў адно цэлае.

Чым карысная такая гульня? Яна дарэчы для выканання заданняў па працоўным навучанні, а таксама для засваення геаметрычных, геаграфічных ведаў, а ў далейшым – курса чарчэння. Гульня развівае спосабы ўяўлення і забяспечвае змяненне створанага вобразу ў прасторы (варыянт V). Акрамя таго, гульня павялічвае веды вучняў пра прадметны свет.

### Мастакамі не нараджаюцца

На дзіцячых малюнках нярэдка можна ўбачыць незвычайна багатую гаму штрыхоў, ліній, контураў і каляровых плям. Выяўленчая дзейнасць – унікальная па сваёй прыродзе і спецыфіцы для перадачы настрою і пачуцця маленькага мастака.

Дзіця, атрымаўшы алоўкі або пэндзаль з фарбамі, спрабуе адлюстраваць на паперы падзеі, якія яго ўсхвалявалі, сваіх сяброў і самога сябе. Вынікі выяўленчай дзейнасці выклікалі і працягваюць выклікаць цікавасць даследчыкаў, якія працуюць над праблемамі дзіцячай выяўленчай творчасці. Ускрываюцца прычыны, што выклікаюць яе "затуханне" ў раннім школьным узросце, распрацоўваюцца новыя методыкі, якія дазваляюць паспяхова развіваць мастацкія схільнасці дзіцяці.

Здольнасць да выяўленчай дзейнасці, як устаноўлена псіхолагамі, не з'яўляецца прыроджанай, а развіваецца непасрэдна ў прадметнай дзейнасці. Яе развіццё самым цесным чынам звязана з атрыманнем дзіцем новых ведаў, з фарміраваннем у яго уменняў і навыкаў, неабходных для правільнага вядзення работы.

Для гэтага трэба ўмела і кваліфікавана арганізаваць працу на ўроку, стварыць умовы нязмушанасці і зацікаўленасці ва ўсіх вучняў, і гэта дазволіць настаўніку выкарыстоўваць дадатковыя магчымасці для развіцця мастацкіх здольнасцей кожнага дзіцяці.

Сёння адчуваецца разрыў паміж узроўнем уменняў і навыкаў у выяўленчай дзейнасці ў вучняў, якія прыходзяць у першы клас. Першыя работы ўжо выяўляюць даволі высокі ўзровень уменняў і навыкаў у дзяцей, якія сістэматычна займаюцца выяўленчай дзейнасцю, і слабае развіццё падобных уменняў у тых, што толькі пачынаюць маляваць. Таму на занятках трэба не дапусціць страты цікавасці ў адных вучняў і не выклікаць расчаравання ў сваіх здольнасцях у другіх.

Гэтую задачу можна вырашыць шляхам стварэння ў класе некалькіх груп, у якія ўвойдуць дзеці, якія добра малююць, і тыя, чые навыкі развіты горш. Аб'яднанне вучняў у групы дазволіць мець на ўроку некалькі памочнікаў: вучань, найбольш падрыхтаваны, седзячы побач або наперадзе, міжволі паказвае тыя простыя тэхнічныя прыёмы, якімі не валодае яго сусед. Пры гэтым настаўнік павінен прадухіліць пасіўнае капіраванне і перайманне работы памочніка дзякуючы папярэдняму абмеркаванню задумы дзіцяці, яго кампазіцыі, што дазваляе захаваць індывідуальнасць. Падрыхтаванаму вучню рэкамендуецца даваць больш складанае заданне, звязанае з выкарыстаннем не аднаго, а некалькіх прыёмаў, якія дазваляюць сварыць больш выразны мастацкі вобраз. Напрыклад, упрыгожыць адлюстраваны прадмет элементамі дэкаратыўнага ўзору або больш дынамічна перадаць некаторыя аб'екты ў малюнку, паказаць іх узаемадзеянне паміж сабой. У выніку такой арганізацыі працы неабходны індывідуальны паказ спосабаў адлюстравання, выкананых ля дошкі.

Падчас самастойнага малявання рабочая атмасфера ў класе прадугледжвае пэўныя ўзаеміны вучняў у класе, і яны з'яўляюцца адным са шляхоў развіцця задумы, якая ў малодшых школьнікаў фарміруецца паступова, у ходзе выканання малюнка. Таму своечасовыя парады аднакласнікаў могуць істотна ўзбагаціць і дапоўніць работу асобнымі характэрнымі дэталямі.

На ўроках вялікае значэнне мае гутарка з дзецьмі, якая праводзіцца перад практычнай дзейнасцю. Актывізаваць жа ўвагу вучняў, зацікавіць у правільным адлюстраванні прадмета дапамагае гульневая форма работы.

Выхаваўчае і навучальнае значэнне творчых здольнасцей малодшых школьнікаў – вельмі вялікае. Гульня ствараe адпаведны эмацыянальны настрой, што, у сваю чаргу, становячы ўплывае на развіццё мастацкай творчасці. Таму ў першым класе я пачынаю вучыць дзяцей з гульневых прыёмаў.

Выкарыстанне розных форм і прыёмаў работы на ўроку дазваляе дзіцяці актыўна ўключацца ў творчы працэс па стварэнні малюнка. Арганічна ўключаныя ў ход заняткаў гульневыя моманты, асобныя прыёмы работы ў рознай тэхніцы і з рознымі матэрыяламі ствараюць спрыяльныя ўмовы для развіцця ў дзяцей творчых здольнасцей на ўроках выяўленчага мастацтва.

**Марыя ДРАЗДОВА, настаўніца пачатковых класаў сярэдняй школы № 2 Слаўгарада.**

Тэатр

# Падараванае жыццё – падараваная радасць

***"Недзе вельмі глыбока, унутры кожнага з нас, сядзіць дзіця, якое было ў свой час нявінным і вольным і якое не ведала, што падараванае яму жыццё - гэта адначасова і падараваная яму радасць" - гэтыя словы вядомага псіхолага Аляксандра Лоуэна сталі своеасаблівым эпіграфам да чарговага спектакля "Залюстэркавасць майго Дзяцінства" ці не адзінага на Беларусі псіхалагічнага тэатра "Лютэя" (Любоў, Тэатр і Я), якому нядаўна споўнілася сем гадоў. Увесь гэты час кіруе калектывам "Лютэі" (а гэта - маладыя прыгожыя людзі, апантаныя Мастацтвам і Любоўю) цікавы чалавек і абаяльная жанчына, кандыдат педагагічных навук, псіхолаг, дацэнт кафедры кіравання вышэйшай школы Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы БДУ Наталля Раманчык.***

***Сёння яна - наш госць.***

**- Наталля Віктараўна, ведаю, што трапіць на вашы спектаклі вельмі няпроста. Попыт заўсёды большы, чым вашы магчымасці прыняць жадаючых. Значыць, ваша ідэя стварыць менавіта такі тэатр цалкам апраўдала сябе. Цікава, калі і як яна ў вас нарадзілася?**

- У мяне быў вопыт стварэння дзіцячага драматычнага тэатра. Калі працавала ў педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, студэнтам вельмі хацелася стварыць нешта цікавае і неардынарнае. І тады ў нас нарадзілася ідэя - праз тэатр дапамагаць людзям. Згадзіцеся: не кожны пойдзе да ўрача, калі баліць душа... У тэатр - калі ласка!

**- Як доўга вы рыхтаваліся да прэм'еры спектакля "Залюстэркавасць майго Дзяцінства" і пра што ён?**

- Мы працавалі над ім тры гады. Акцёрская і пастановачная работа - не з лёгкіх. Самі шылі лялькі, якія працуюць у спектаклі разам з акцёрамі. Кожная лялька - гэта ўнутранае наша Дзіця, што жыве ў душы кожнага. У час спектакля мы дапамагаем сваім гледачам сустрэцца са сваім уласным унутраным Дзіцём - адчуць яго, зразумець і палюбіць.

Мадэлюецца траўматычная сітуацыя, праз якую мы суправаджаем нашага гледача - праз адзіноту ўнутранага Дзіцяці, яго крыўды, вінаватасць. Многія тэксты ідуць ад імя Дзіцяці. Дзея ў спектаклі развіваецца па законах драмы і псіхатэрапеўтычнага працэсу.

**- А калі спектакль, акрамя ўнутранай рэвізіі і моцных эмацыянальных перажыванняў, нясе і шчымлівы ўспамін пра час роспачы і адчаю, калі чалавеку здаецца, што сэнс жыцця назаўсёды страчаны?.. Пра гэта ідзе размова ў вашым спектаклі "Міжсезонне. Пятая пара года", калі многія гледачы, пазнаючы сябе, плачуць, смяюцца, дзівяцца?..**

- Стан так званага экзістэнцыяльнага вакууму - перыяду ў жыцці чалавека, калі страчваецца сэнс існавання, мы назвалі міжсезоннем. Найбольш тыповы прыклад - сітуацыя страты. А страціць можна ўсё: грошы, ілюзіі, работу, блізкага чалавека... Часцей за ўсё гэты стан - цяжкі перыяд, у якім чалавек можа застацца надоўга.

У час спектакля даём магчымасць гледачам пражыць сваё "міжсезонне", прасачыць, усвядоміць дынаміку пачуццяў, здабыць уласны, "здаровы" вопыт душы. Акцёры шукаюць разам з гледачамі альтэрнатыўныя шляхі выйсця з жыццёвага тупіка праз міласэрнасць і спачуванне. Выступаючы ў ролі калектыўнага псіхолага, яны дапамагаюць адчуць і перажыць праблемную сітуацыю. А стратэгію выйсця з тупіка кожны чалавек знаходзіць сам зыходзячы з уласных магчымасцей. Галоўныя дзеючыя асобы ў спектаклі - тры састаўныя Чалавека: Цела, Душа і Розум. Яны ўступаюць у канфлікт паміж сабой і са знешнім светам, дзе ўладараць сілы Святла і Цемры. Жадаючых трапіць на "Міжсезонне" заўсёды вельмі шмат. Прыходзяць па некалькі разоў. У нас ёсць глядач, які прыходзіў да нас на гэты спектакль ажно 17 разоў.

**- Уражвае і "Эльфійская казка". І сапраўды - казка! Вочы ў гледачоў вільготна паблісквалі. Відаць, гэта былі слёзы?**

- "Эльфійская казка" - падарожжа ў свет чароўных эльфаў, магчымасць пабачыць цуд і паверыць у яго. У чалавека ёсць патрэба ў Любові: яму вельмі хочацца, каб яго нехта любіў, шкадаваў, дарыў радасць. Мы дапамагаем яму ў гэтым.

**- У вашым рэпертуары ёсць і псіхалагічныя гульні, і абрадавыя спектаклі...**

- Так. Наш першы абрадавы спектакль - "Купальская ноч", з якім у свой час былі на гастролях у Чэлябінску. Мы не рабілі з яго шоу, а пражывалі для сябе добры і паэтычны абрад беларусаў. Размаўлялі выключна на беларускай мове, пелі абрадавыя песні, плялі вянкі... А дабрыня заўсёды прыцягальная. У аўры Любові адбываліся незабыўныя сустрэчы з людзьмі, якія хацелі пазнаёміцца з нашай культурай.

У вёсцы Балачанка Пухавіцкага раёна мы рабілі абрад "Беларускае вяселле" з абрадавымі песнямі і танцамі, традыцыйнымі стравамі. Усё адбывалася настолькі натуральна і нязмушана, што неўзабаве вяскоўцы і ўсур'ёз пайшлі да нас "на вяселле" хто з выпіўкай, хто з закускай. У захапленні былі і нашы госці з Германіі і Францыі. А потым нямецкі журналіст напісаў у сваю газету артыкул пра тое, як было ім хораша на беларускім вяселлі ў Балачанцы.

У мінулым годзе ў Германіі (там мы былі двойчы) з задавальненнем паказвалі немцам абрад "Беларускае вяселле" - выступалі ў дзіцячых дамах, дамах састарэлых і клініках пры манастырах. Нам дазвалялі паказваць гэты цудоўны абрад усюды, нават на кірмашах і ў... касцёле. (Усе выступленні былі дабрачынныя, а за выручаныя грошы купілі лекі для хворых дзяцей Беларусі). А неўзабаве ў адной з нямецкіх газет з'явілася публікацыя "Беларускае вяселле ў касцёле?! А чаму б і не?". Ксёндз гэтага касцёла шчыра нам падзякаваў і сказаў: "Нарэшце я ўбачыў беларускую культуру з іншага боку і палюбіў яе".

**- "Усё жыццё - тэатр, а людзі ў ім - акцёры" - гэтыя шэкспіраўскія словы з нейкім асаблівым пачуццём узгадваюцца пасля знаёмства з вашым тэатрам. Разумееш, наколькі важна ў нашым жыццёвым тэатры быць гатовым сустрэць любую сітуацыю. Вы дапамагаеце людзям у гэтым. Цікава, а як успрымаюць вашу працу тыя ж замежныя гледачы, якія часта бываюць на спектаклях "Лютэі"?**

- Яны таксама ўсё правільна разумеюць. У нас пабывалі госці з Германіі, Італіі, Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, Англіі, ЗША, Італіі, Перу, Іспаніі... Ім мы коратка расказваем ідэю спектакля і прадстаўляем акцёраў. Памятаю, як адзін з акцёраў, прафесар з Галандыі, усклікнуў: "Мне нічога не трэба тлумачыць і перакладаць! Жыццё чалавека ў спектаклі - гэта жыццё па Біблії". І пакінуў водгук: "Гэта - лепшае, што я бачыў у сваім жыцці".

**- Відаць, вам даводзіцца працаваць і ў экстрэмальных умовах?**

- Калі трэба, выступаем перад дзецьмі-інвалідамі і перад тымі, якія адыходзяць з жыцця. Гэта вельмі цяжка. Уявіце: дзіцяці, якое памірае, ставяць кропельніцу. А мы павінны не шкадаваць яго, а зрабіць усё магчымае, каб стварыць вакол душы аўру Любві і Клопату, бо галоўная наша задача - дапамагаць іншым.

Тэатр "Лютэя" дае магчымасць выжыць праз спачуванне да бліжняга і блаславіць "жыццё па Біблії" і ў сваёй душы. А яшчэ - зразумець, што падараванае чалавеку жыццё - гэта і падараваная яму радасць.

**Святлана ХОРСУН.**

НА ЗДЫМКУ: Наталля Раманчык у час спектакля.

**Фота аўтара.**

Кіно

# "Лістапад-2001"

***З 23 па 29 лістапада ў Мінску пройдзе VIII Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад-2001"***

"Осторожно – листопад! Я влюбилась невпопад!" – спявае знакамітая поп-зорка ў адной са сваіх папулярных цяпер песенек, і гэтыя словы, можна не сумнявацца, неўзабаве набудуць свой рэальны сэнс для тысяч мінскіх прыхільнікаў кінамастацтва. З адной толькі розніцай – беларускія гледачы ўлюбіліся ў кінафестываль "Лістапад" зусім не неўпапад, як Ала Барысаўна, а, так бы мовіць, апраўдана і ўсвядомлена: арганізатары кінафестывалю краін СНД і Балтыі "Лістапад" яшчэ аніколі не падводзілі аматараў кіно нецікавай праграмай.

Вось і сёлета арганізатары і заснавальнікі "Лістапада-2001" (Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарвыканкам, Беларускі саюз кінематаграфістаў, Дзяржаўная тэлерадыёкампанія і кінастудыя "Беларусьфільм") пастараліся зрабіць усё магчымае, каб канец гэтай восені запомніўся менчукам не нудотнымі лістападаўскімі вечарамі, а непаўторным кінавідовішчам, здольным падарыць людзям сапраўдную эстэтычную асалоду.

Гасцямі і ўдзельнікамі фестывалю ўжо не ўпершыню будуць кінематаграфісты Беларусі, Расіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Грузіі, Узбекістана і (упершыню) Кыргызтана, якія прадставяць на суд гледачоў 17 фільмаў, "выходныя дадзеныя" якія кажуць самі за сябе: "Прыходзь на мяне паглядзець" (Расія, рэж. А.Янкоўскі, М.Аграновіч), "Брэменскія музыкі" (Расія, рэж. А.Абдулаў), "Яды, або Сусветная гісторыя атручванняў" (Расія, рэж. К.Шахназараў, дарэчы, паказам менавіта гэтага фільма адкрыецца кінафестываль 23 лістапада ў Палацы рэспублікі), "Павадыр" (Беларусь, рэж. А.Яфрэмаў), "Прэзідэнт і ягоная ўнучка" (Расія, рэж. Т.Кеасаян), "Далікатны ўзрост" (Расія, рэж. С.Салаўёў), "Містэрыя старой управы" (Латвія, рэж. Я.Стрэйч), "Сёстры" (Расія, рэж. С.Бадроў-мал.), "Каўчэг" (Грузія, рэж. М.Кокачашвілі), "Мама" (Узбекістан, рэж. З.Мусакоў, Б.Адылаў), "Маймыл" (Кыргызтан, рэж. А.Абдыкалыкаў), "Мыйшчыкі аўто" (Украіна, рэж. В.Ціхі), "П'ерлякіна, або Лягчэй ад паветра" (Арменія, рэж. Д.Месхіеў), "Цялец" (Расія, рэж. А.Сакураў), "Канец стагоддзя" (Расія, рэж. К.Лапушанскі) і "Котка заўсёды падае на лапы" (Эстонія, рэж. Я.Кільмі, П.Герцаг, Р.Сарнет). На фестываль запрошаны вядомыя акцёры і рэжысёры: С.Лазарук, А.Янкоўскі, В.Глаголева, Г.Жжонаў, Д.Харацьян, Т.Кеасаян, М.Губенка, В.Цялічкіна, В.Залатухін і многія іншыя.

Апроч "Кастрычніка" – традыцыйна асноўнай фестывальнай залы, – сваімі праграмамі гледачоў забавяць і іншыя сталічныя кінатэатры. У "Піянеры" пройдзе Міжнародны фестываль дзіцячага кіно "Лістападзік", дзе будуць прадстаўлены карціны расійскіх, французскіх, узбекскіх, украінскіх, кітайскіх і балгарскіх кінематаграфістаў. У к/з "Мінск" адбудзецца конкурс спектакляў Тэатра-студыі кінаакцёра. Не расчаруюць гледачоў і насычаныя праграмы кінатэатраў "Мір" і "Перамога": Дні дакументальнага кіно і кароткаметражных фільмаў, фотавыставы і інш.

Усё гэта – што тычыцца таго, чым змогуць пазабаўляцца кінааматары. Аднак фестываль – гэта не толькі забавы й відовішчы. Гэта яшчэ і школа. Школа, дзе будуць вучыцца кінематаграфісты розных краін, абменьваючыся прафесійным вопытам. Школа, дзе студэнты творчых спецыяльнасцей з БДУ, БУК і БелАМ атрымаюць магчымасць павучыцца непасрэдна ў вядомых рэжысёраў і акцёраў на творчых сустрэчах з імі. Урэшце, школа, дзе шараговыя беларускія кінаманы навучацца разумець сапраўднае мастацтва, а, балазе, несапраўднага ім "Лістапад-2001" прапаноўваць не збіраецца.

**Мікола ЧЭМЕР.**

Музыка

# Мелодыі кропляў і подыху

***У кожнага народа ёсць свае традыцыйныя музычныя інструменты, у нечым падобныя да звыклых нам, у нечым - вельмі адрозныя. Здаўна ў Японіі граюць на кота і сякухаці. Што гэта і чаму сёння мы павядзём гаворку пра іх?***

Кота называюць японскай арфай (трэба дадаць – гарызантальнай). Хаця інструмент хутчэй нагадвае гуслі, ён здольны нараджаць не толькі і не столькі пераборы (глісанда), колькі мелодыю. Гукі досыць рэзкія (нібыта аскепкі або цяжкія кроплі дажджу па метале). Але ці варта параўноўваць гэты інструмент са звыклаю нам арфай? Японцы адрозніваюць дзесяткі адценняў чорнага і шэрага колераў. Таму не дзіўна, што і кожны гук для японца-музыкі – каштоўнасць. Трэба прасачыць, як нараджаецца гук, набірае моц, вібруе, адхіляецца на чвэрць тона... Атрымаць асалоду спачатку ад аднаго, асобнага гуку, а потым – ад іх спалучэння, сугучча.

Сякухаці – бамбукавая прадольная флейта. Яе гукі нараджаюцца ад дыхання. Прасачыць за вандроўкай аднаго ўздыху, адной доўгай ноты, плаўнай мелодыі. Гукі не такія звонкія, як у флейты еўрапейскай. Сякухаці ўздыхае, падсвіствае, падшэптвае... Яна ўмее... нават мурлыкаць, як сыты задаволены кот.

З гэтымі дзівоснымі інструментамі можна было пазнаёміцца на нядаўнім канцэрце традыцыйнай японскай музыкі, што прайшоў у мінскай філармоніі.

На адзін вечар гаспадарамі сцэны сталі Сэйзан Мацуда і Міэка Міязакі.

Спадар Мацуда выступаў у Японіі разам з вядомым гуртом "Анідайкодза" (яны граюць на традыцыйным барабане "тайка"), браў удзел болей як у 500 гастролях у Грэцыі, Фінляндыі, ЗША, ФРГ, Бельгіі, Расіі ды іншых краінах. Разам з імі Мацуда-сан ажыццявіў тысячакіламетровую вандроўку па Кітаі (радзіме флейты), збіраючы матэрыялы аб паходжанні сякухаці.

Спадарыня Міязакі яшчэ студэнткаю грала на кота для сям'і імператара ў вялікай канцэртнай зале "Такагакуда" імператарскага палаца. Пазней пачала сама пісаць песні і вершы для тэлепраграмы, выпусціла альбом кампакт-дыскаў.

Падчас прэс-канферэнцыі госці распавялі, што граюць не толькі традыцыйную музыку. Так, С.Мацуда, захоўваючы традыцыі мінуўшчыны, прыўносіць у свой выканальніцкі стыль сучасныя музычныя формы, часта граючы з джазавымі гуртамі. Імкнецца да выяўлення новых падыходаў і М.Міязакі.

– У нас ёсць асобныя выканаўцы і гурты, што граюць у стылі folk-modern, – патлумачыў Мацуда-сан, – яны маюць свайго слухача. Але не з'яўляюцца зоркамі эстрады.

Канцэрт быў складзены так, што музыкі паказалі розныя мелодыі для кота і сякухаці – ад старэйшых, напісаных яшчэ ў XVII ст., да музыкі сярэдзіны XX ст., паказалі, што нязвыклыя нам інструменты здольныя засвоіць еўрапейскі матэрыял. Прагучалі "Летнія дажджы" Дж.Гершвіна, "Варыяцыі Гольдберга" І.С.Баха, "Танец з шаблямі" А.Хачатурана (вельмі прыязна сустрэты слухачамі, атрымалася амаль рокавая кампазіцыя).

Вельмі ж характэрнаю падалася восеньская песня кота і сякухаці. Восеньскія краявіды былі намаляваныя гукамі. Празрысты, крыху прахалодны дзень – кота, шоргат лістоты – флейта. І неўзабаве струны кота ператварыліся ў кроплі, а чыстая шчымлівая мелодыя "вальсу" сякухаці – у тужлівае выццё ветру.

Вецер і хвалі гучалі ў кампазіцыі "Змаганне з тайфунам". Інструменты закруцілі сапраўдны вір гукаў.

А Бах на кота гучаў надзвычай акадэмічна. Нездарма Міязакі-сан памяняла ў антракце кімано на еўрапейскую вечаровую сукенку. Своеасаблівым падарункам стала выкананне гасцямі п'есы паводле беларускіх народных песень. Кота і сякухаці нарэшце нагадалі пра нашыя цымбалы і дудачку, што канчаткова ўлюбіла гледачоў у японскіх музыкаў.

**Крысціна ПУЧЫНСКАЯ, Уладзімір ПУЧЫНСКІ.**

Выставы

# У вокнах - мы

## У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва праходзіць міжнародная выстава графікі "Вокны аднаго горада"

***Гэта ўжо трэці міжнародны тэматычны выставачны праект, які ладзіць Гётэ-Інстытут Інтэр Нацыёнэс разам са сваімі партнёрамі (першы праект "Тэксты", у якім бралі ўдзел мастакі з Беларусі і Германіі, дэманстраваўся ў 1997-1998 гадах; над другім - "Ілюзія адлегласцей" - працавалі ў 2000 годзе творцы з Беларусі, Германіі і Францыі). І кожны раз канцэптуальнасць дыктуе свае ўмовы: менавіта яна змушае думку апярэджваць эмоцыю, а неспрактыкаванага гледача дык і наогул збівае з панталыку...***

Вось і ў выпадку з "Вокнамі аднаго горада". Ну, па-першае, чаму менавіта вокны - далёка не першачарговы і найбольш "нетрывалы" атрыбут горада? Той жа асфальт, напрыклад, куды больш расказаў бы пра ўласны горад. А, па-другое, чаму АДНАГО горада, калі ўдзельнікі выставы - жыхары розных еўрапейскіх гарадоў?!

Гэта - вядомыя беларускія графікі з Мінска і Гродна Андрэй Басалыга, Вольга Нікішына, Павел Татарнікаў, Юрый Якавенка (яны ўжо не адзін год паспяхова ўдзельнічаюць у рэспубліканскіх і міжнародных праектах), сёлетнія выпускнікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Валерыя Маляўкіна і Раман Сустаў, польская мастачка з Варшавы Малгажата Дзмітрук (дарэчы, яна таксама вучылася нейкі час у Акадэміі мастацтваў у Мінску) і знаныя майстры нямецкага плаката Анэтэ Крогер і Гервін Шмідт з Мюнхена.

Усе яны працавалі незалежна адно ад аднаго, і большасць работ была зроблена адмыслова для гэтага праекта. Разнастайнасць творчых рашэнняў была закладзена ад пачатку (мастацкія ўяўленні ў мастакоў розных творчых прынцыпаў і розных культурных асяродкаў не могуць супадаць), і тым не менш гэтая разнастайнасць не перашкодзіла стварэнню адзінага вобраза, народжанага урбаністычнай свядомасцю...

Вокны-вочы - гэта вочы не горада, а самога мастака, які ўзіраецца ў свой родны горад, але пазнае ў ім прыкметы і чужых гарадоў, чужога жыцця, а па вялікім рахунку - наогул ЖЫЦЦЯ, адзінага і суцэльнага сапраўднага жыцця. Менавіта таму і не пазначана канкрэтная назва горада. Гэта той горад, які мастакі БУДУЮЦЬ у сваіх творах. Ён павінен увабраць рысы розных, але застацца адзіным. Гэта не Мінск, дзе ўсё нам здаецца да крыўднага звыклым і пазнавальным. Але гэта і не Варшава, дзе гэтаксама ўсё звыклае і пазнавальнае (вядома ж, для жыхара Варшавы). Гэта - універсальны горад-рэальнасць, які ўспрымаецца праз чаргаванне святла і цемры, праз знакі штодзённага жыцця, аднолькава бачныя ў кожным рэальным вакне Мінска, Гродна, Варшавы, Мюнхена...

Зрэшты, калі ўжо вяртацца да літаральна-рэальнага ўспрымання "вокнаў горада", то ці ж не вітрыны і ёсць насамрэч гэткія вокны. І неяк сам па сабе напрошваецца на цытаванне версэт канцэптуаліста ў паэзіі Алеся Разанава:

"У крамных вітрынах павыстаўляны рэчы - мо для сустрэчы, а можа, для развітання.

Нібы ля сваіх дарагіх нябожчыкаў, мы спыняемся каля іх, аглядаем іх, убіраем іх у душу і ў памяць.

І адчуваем, хвалюючыся, што з імі нас звязвае тайнае падабенства, бы некалі, напачатку, калі Бог тварыў свет, мы былі гэтаксама рэчамі і будзем некалі зноў.



Усё, чым багаты мы, - гэта рэчы, і ўсё, перад чым мы аказваемся багамі, - яны.

Мы адыходзім далей.

Але застаюцца ў вітрынах рэчы, а ў рэчах - мы".

...Неўзабаве выстава "Вокны аднаго горада" з'едзе з Мінска. Спачатку - у Магілёўскі абласны мастацкі музей імя П.Масленікава, дзе будзе дэманстравацца з 5 снежня да 9 студзеня. Пасля - з 18 студзеня па 17 лютага - разгорнецца ў Полацку, у Нацыянальным полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку... Урэшце, вядома ж, "адыдзе". І мы "адыдзем" далей. Але застануцца "вокны". А ў "вокнах" - мы...

**Мікола ЧЭМЕР**

НА ЗДЫМКУ: Чаго толькі не ўбачыш у "вокнах аднаго горада".

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**



Новыя кнігі

# У пошуках свайго пачатку

***"Паэзія - мова душы, гэта мова самой патаемнай сутнасці чалавека, якая падаравана яму Богам..." Такія словы сталі эпіграфам сціплай кніжачкі "Найди всему своё начало", выдадзенай нядаўна ў Барысаве цэнтральнай раённай бібліятэкай. Пад вокладкай кніжкі - вершы васемнаццаці маладых паэтаў, звязаных жыццёвай і творчай дзейнасцю з гэтай зямлёй.***

Абсалютная большасць з іх – вучні і педагогі мясцовых школ, студэнты навучальных устаноў Барысава і сталіцы. Рупна сабраныя ўкладальнікамі іх вершы – своеасаблівы светлы гімн роднаму краю, беларускай зямлі.

Радзіма, мабыць, гэта тое,
Аб чым нельга
Шчыра расказваць кожнаму:
Гэта калі ты колькі разоў
На дзень нешта бачыш,
І ў цябе шчыміць сэрца.

Так піша навучэнка Барысаўскага політэхнічнага ліцэя Эла Андрэйчык. У першых, часта не вельмі пакуль умелых радках юнай паэткі – шчырасць і непадробнае пачуццё. Ёй ва ўнісон гучыць голас шаснаццацігадовага Валерыя Белага з вёскі Зорычы:

Самы родны, любімы край
З белакрылымі цуд-буслами,
І чаруе ўсіх месяц май
Чарнавокімі вечарамі.

Шчырымі пачуццямі напоўнены і радкі дзесяцікласніцы Забашэвіцкай сярэдняй школы Веранікі Ігнатовіч, адзінаццацікласніцы Жыцькаўскай сярэдняй школы Таццяны Клімковіч, вучаніцы сёмага (!) класа Касцюкоўскай школы Таццяны Козік.

А вось Янка Лайкоў, чые вершы змешчаны ў зборніку, – ужо, нягледзячы на свой малады ўзрост, прафесіянал, член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Закончыўшы адзінаццаць класаў Мётчанскай сярэдняй школы, малады паэт працаваў у роднай школе. Зараз вучыцца ў Беларускім універсітэце культуры.

Вершы Лайкова публікаваліся ў беларускім друку, а ў 2000 годзе ў яго выйшла кніга вершаў "Логіка пасткі".

Не навічок у паэзіі і аднавясковец Я.Лайкова Алесь Нінько, які зараз вучыцца на філфаку БДПУ імя М.Танка. Яго вершы публікаваліся ў часопісах "Першацвет", "Маладосць", іншых часопісах, газетах.

А вось Наталля Пузанкова скончыла універсітэт імя М.Танка і працуе настаўніцай ў вёсцы Лошніца. Яе паэтычныя радкі прыцягваюць вобразнасцю, імкненнем адшукаць сваю ўласную мелодыю, лірызмам.

Настаўнікі і Пётр Слесаронак, і Раіса Шастаковіч. Іх шчырыя радкі таксама прысвечаны роднаму краю, высокаму пачуццю кахання.

Прыемна, што да выдання зборніка паэтаў Барысаўшчыны спрычыніліся раённы выканаўчы камітэт (дарэчы, адкрывае кнігу прадмова старшыні райвыканкама Я.Сіўца), аддзел культуры, абласная і раённая арганізацыі БПСМ. Шкада, хіба, толькі, што ўкладальнікі не запрасілі да супрацоўніцтва прафесійнага рэдактара. Тады б менш было ў зборніку яўных хібаў, больш строгі быў бы адбор матэрыялу. Але гэтая заўвага ні ў якім разе не перакрэслівае важнасць і патрэбнасць ініцыятывы барысаўскіх культработнікаў.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**

**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Рэгістрацыйны нумар 197.**

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-43-71; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22.



Адказны дзяжурны Ала ШАЎЦОВА.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Замова № 6698
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 21.11.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.